## АДКРЫТЫ РАХУНАК БЗВ

У дзейнасці Беларускага згуртавання вайскоўцаў адбылася значная падзея. Адкрыты банкаўскі рахунак арганізацыі. Пакуль што на ім — невялікая сума складак сяброў БЗВ. Але ў кіраўніцтва арганізацыі ёсць меркаванне, што грашовую падмогу БЗВ змогуць аказаць прафсаюзныя арганізацыі, свядомыя, заклапочаныя ў нацыянальным Адраджэнні, камерсанты, дзяржаўныя структуры.

У першую чаргу, лічыць кіраўніцтва БЗВ, грошы пойдуць на клопаты па патрыятычнаму выхаванню моладзі — заўтрашніх абаронцаў Айчыны.

**Падказваем рахунак БЗВ: г. Мінск, камерцыйны банк «Дукат», Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, 700210 МФО 153001767.**

К. ЛАДУЦЬКА.



# МІТЫНГОВАЯ АПОВЕСЦЬ

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**

**(Працяг. Пачатак у №№ 25—27).**

Парэпка разам з Хведарам Слабковым паволі, але няўхільна прыбліжаліся да ўваходу на могілкі, дзе ад жалезнае крытае брамы ў два бакі адыходзяць, як два крылы, бетонныя, у рост чалавека, панелі-бардзюры, на якіх ужо злева і справа стаялі фатографы, некаторыя нават усцягнулі свае трыногі-штатывы, былі і людзі з кінакамерамі, хоць на іх увесь час пакрыквалі знізу міліцэйскія начальнікі з мегафонамі, прасілі і патрабавалі, каб яны спускаліся на зямлю. Аднак жа іх каманда прападала без адказу, і тады міліцыянеры пачалі сцягваць людзей за ногі. Мала таго, там апынулася яшчэ нямала моладзі са сцягамі, з транспарантамі — іх таксама сцягвалі ўніз раззлаваныя не на жарт міліцыянеры.

Ля ўваходу на могілкі, як сцяна, стаяла ў некалькі шарэнгаў міліцыя, побач з імі — іх камандзіры, некалькі вышэйшых афіцэрскіх чыноў з мегафонамі — яны хадзілі між натоўпу і заклікалі разысціся, «не траціць дарагога часу». На могілкі, гаварылі яны, нікога не пусцяць, такі прыйшоў загад.

У натоўпе сям-там Парэпку трапляліся знаёмыя твары — то хто па рабоце, па Саюзу пісьменнікаў, то які аўтар, што прыносіў вершы ў рэдакцыю.

Вось да іх падышоў не так высокі, як мажны, з магутнымі пакатымі плячыма малады мужчына. Парэпка ведаў яго — прозвішча яго было Стасевіч, ён прыносіў у рэдакцыю свае першыя апавяданні, яны былі надрукаваны, Парэпка чытаў іх, і яны яму спадабаліся. Стасевіч, як большасць людзей такога фізічнага складу, быў павольны, разважлівы і спакойны чалавек.

Парэпка пазнаёміў Стасевіча са шваграм. Той глянуў на хлопца знізу ўверх, крыва ўсміхнуўся— адным краем вуснаў — і сказаў:

— О, цяпер мы смелыя. Як за каменнаю сцяною. Пойдзем разам?

— А чаму ж не? —адказаў Стасевіч. — Я тут у натоўпе згубіў сябра, то пайду з вамі.

— А куды пойдзем? — зноў спытаўся Парэпка. — Хіба мы не прыйшлі?

І толькі ён так спытаўся, як справа ў натоўпе пачуліся крыкі:

— На Курапаты! На Курапаты! Ідзём на Курапаты!

І ў натоўпе замахалі бела-чырвона-белымі сцягамі, як бы запрашаючы да руху, паказваючы яго кірунак.

Паступова Парэпкам авалодвала пачуццё, знаёмае па мітынгах, зборах і сходах, якія цяпер здараліся часта: ён сам быў актывістам БНФ, «Мартыралога Беларусі», Таварыства беларускай мовы, — і часта быў сярод натоўпаў людзей, аб'яднаных адною ідэяй — адраджэння Бацькаўшчыны. Яго ахоплівала тады пачуццё ўпэўненасці ў сваіх сілах, пачуццё еднасці з тымі людзьмі, якія былі навокал яго, бо гэта былі свае людзі, пераважна беларусы, пераважна ўсе яны гаварылі на роднай мове, і было прыемна чуць побач родную мову, яна лашчыла яму слых, як музыка.

Натоўп, як агромністая ільдзіна, паволі раскалваўся на дзве часткі: левая, прыпёртая да жалезнай агароджы могілак шпалерамі міліцыі і курсантаў, павагаўшыся, засталася на месцы, а правая, паволі выцягваючыся, ціснімая з абодвух бакоў шарэнгамі міліцыі, паволі перастройвалася ў калону, абазначаўшы свой фарватэр транспарантамі і бела-чырвона-белымі сцягамі.

Там, недзе ў галаве гэтай калоны, ішоў лідэр БНФ Юзік Стэльмах, прызнаны ўсімі кіраўнік новых сіл, што аб'ядналіся пад сцягам адраджэння, у абарону перабудовы. Ён ужо меў шмат ворагаў, усе яны, як маглі, аблівалі яго брудам, няславілі, называлі фашыстам, антысаветчыкам, экстрэмістам, — як яго толькі не называлі!

Але варта было яго паслухаць адзін раз, як усё тое, што на яго вярнулі і лілі, нібы само сабою адпадала, не пакідаючы следу: перад табою быў шчыры патрыёт Беларусі, які хоча ёй дабра, дабра для яе народа.

...Абмінуўшы справа Маскоўскія могілкі, калона рушыла полем і сцежкамі проста на Курапаты. Тут пагоркі, нізіны, пеpакаты, калона расцягнулася на дзве вярсты ці болей. Відаць дарога злева, па якой бягуць адна за адной машыны. Але што гэта? Машыны не простыя, не цывільныя. Гэта міліцэйскія машыны з мігалкамі, яны едуць туды, куды кіруе калона — на Курапаты. Едуць і «хуткія дапамогі», і аўтобусы-фургоны з закратаванымі вокнамі. Значыць, іх будуць чакаць на ўваходзе ў лес. Мо нават не будуць пускаць. Мо нават будуць сустракаць палкамі — разганяць...

І Юзік Стэльмах робіць хітры ход: ён спыняе калону сярод поля, на пагорку, і аб'яўляе, што далей ісці няма сэнсу, бо іх там будзе чакаць міліцыя ў засадзе, і чым усё скончыцца — невядома. Ёсць сэнс спыніцца тут і правесці жалобны мітынг.

І людзі згадзіліся. Паволі з калоны ўтварылася вялізнае кола, якое згрупавалася вакол цэнтра, у якім быў Юзік Стэльмах і некалькі яго сяброў, што ўцалелі ад арышту, былі сцягі і транспаранты.

Мегафона не было, і Стэльмах звярнуўся да ўсіх так, як гавораць не з трыбуны, а як гаворыць чалавек з чалавекам проста і шчыра, без лішняга пафасу.

— Шаноўная грамада! Вы бачыце, што нам не даюць рабіць мінімальнае з таго, што можа і павінен рабіць кожны народ у сваім доме, на сваёй зямлі. Мы тут не як гаспадары, а як пасынкі. Розніца з тым, што было не так даўно, што нас не страляюць і не кідаюць у ямы, як гэта рабілі да вайны вось у тым недалёкім лесе, у які мы ішлі, каб запаліць свечкі і памянуць душы нявінных ахвяр сталінскага генацыду. Прашу запаліць свечкі, у каго ёсць... Свечка — сімвал нашага жыцця. Яна гарыць так жа хутка, як праходзіць для вечнасці наша жыццё... Сёння мы запалілі гэтыя свечкі за душы нашых суайчыннікаў, што склалі свае нявінныя галовы ў Курапатах, за душы тых, хто жыў да нас, хто пакінуў нам надзею на лепшае заўтра, якое мы павінны рабіць, будаваць сёння. Ім было цяжка, але яны не адступалі, яны верылі, што ідуць правільнаю дарогай і што перамога будзе на іх баку. Шмат хто з іх памерлі з гэтаю святою верай, шмат хто расчараваўся, шмат хто праклаў тое, у што верыў... У што ж сёння верыць нам, што нясём свой нялёгкі крыж? У тых, што сёння накіравалі па нашых слядах міліцэйскія батальёны, што па-ранейшаму лічаць нас нацыяналістамі, ворагамі свайго народа і сваёй зямлі? Не, у тых мы ўжо даўно не верылі і не верым.

— А добра гаворыць, — штурхнуў локцем Парэпку швагер Слабкоў. — Шчырую праўду кажа...

Парэпка кіўнуў — сапраўды, словы Стэльмаха знаходзілі ў яго душы свой водгук, абуджалі эмоцыі, якія не так ужо і часта хто-небудзь мог закрануць, што называецца, перавярнуць душу. А Стэльмах сваім шчырым словам гэта зрабіў — і, відаць, не толькі ў свядомасці Парэпкі ці Слабкова. Моладзь успрымала яго яшчэ больш блізка, прачула, гатова была за ім у агонь і ў ваду.

Выступала нейкая бялявая дзяўчына, чытала свой верш. Звычайны, не асаблівы, не напісаны вось для гэтай хвіліны, але з роздумам пра наша нядаўняе і тое, што мы маем сёння. Ён уражваў і кранаў усіх, хто стаяў тут пад сцягамі «Пагоні», хто прыйшоў ушанаваць памяць сваіх продкаў — дзядоў:

**Дайце мне быць беларусам —**
**Усяго толькі, не болей.**
**Бо цяжка жыць пад прымусам,**
**Абдзеленым доляй і воляй.**
**Куды наша мова прапала?**
**Каму яна лішняй здалася?**
**Нібыта не жыў наш Купала,**
**І песня яго не лілася?**
**Было ў нас усё на славу,**
**Ды неяк няўзнак пазнікала:**
**Мудрае Коласа слова,**
**Прароцкае слова Купалы...**

— Ты глядзі на тую горку, што справа ад нас,—зноў штурхнуў Парэпку швагер, як толькі дзяўчына скончыла чытаць верш. — Там жа міліцыя, і яна нешта падазрона нацэлена на нас.

Міхась Парэпка ўжо колькі часу бачыў там рух міліцыянераў, іх мо рота ці болей, нешта яны стаялі строем, а потым змяшаліся, нешта падобнае, як самі мітынгавалі. Ужо добра тое, што не ўмешваліся.

— Хай глядзяць, абы не чапляліся да нас,— адказаў Парэпка.

— Не для таго іх прыгналі сюды, каб яны стаялі і мерзлі. Яны зараз пачнуць грэцца, вось пабачыш, — выказваў здагадкі Слабкоў.

Малады барадаты высокі мужчына стаў гаварыць пра тое, як вякамі знішчалі нашу нацыянальную свядомасць, як заўсёды лепшых людзей нацыі або хацелі купіць, перацягнуць на бок дужэйшых, або знішчалі, калі тыя не хацелі прадаваць інтарэсы свайго народа.

І тут раптам ён змоўк, азірнуўся: да людзей даляцеў гул — нібы зусім блізка імчаўся табун дзікіх коней — аж дрыжала ўмерзлая звонкая скарынка зямлі. І ўслед пачуўся моцны камандзірскі голас:

— Дзяцей не топтать!

Усе з жахам пазіралі і бачылі: на іх лавінай, рассыпаўшыся па полі, імчаў мо цэлы батальён міліцыі з доўгімі палкамі ў руках.

—Не ўцякаць! Будзем стаяць на месцы! Мы не злачынцы! — крыкнуў, перакрываючы тупат ног, Стэльмах і ўзняў угару руку.

Але інстынкт самазахавання мацнейшы за ўсе чалавечыя пачуцці: многія, асабліва крайнія, кінуліся наўцёкі, са страхам чакаючы набліжэння міліцыі і непазбежных удараў.

І вось яны ўварваліся, урэзаліся ў натоўп, збіваючы з ног ударамі цел і палак тых, што стаялі з краю, даганяючы тых, што ўцякалі, і б'ючы іх на хаду направа і налева, не разбіраючы ні галавы, ні плячэй. Крыкі роспачы, дзікі лямант і плач запоўніў усё поле.

Міліцыянеры адбіралі транспаранты і сцягі, ламалі дрэўкі, раздзіралі і таптлі палотнішчы. І рабілі гэта з вялікім імпэтам, старанна, нібы выконвалі вунь якую важную работу, а лепш сказаць — адказную.

Гледзячы на ўсё гэта, Міхась Парэпка прыйшоў у нейкі дзікі шал. Здаецца, каб была ў яго шабля, ён цяпер, не задумваючыся, кінуўся б у гушчу тых, што беглі з палкамі, і сёк бы, не разбіраючы, налева і направа, як яны цяпер малацілі сваімі палкамі, каб аж ляцелі іхнія галовы, бо гэта было нясцерпна, невыносна глядзець, як дужыя адкормленыя дзецюкі накідваюцца на ні ў чым не вінаватых людзей — жанчын і дзяўчат, хлопцаў і ўжо ў гадах людзей, нават на тых жа дзяцей, якіх было загадана «не топтать».

**(Працяг будзе).**

Друкуецца са скарачэннямі.

# РАНІЦА ДЗЕЛАВОГА ЧАЛАВЕКА

**Парады дае кандыдат медыцынскіх навук Павел САКАЛОЎ, —спецыяліст па нялекавых метадах тэрапіі, аўтар 90 навуковых і 35 папулярных публікацый.**

Дзень трэба пачынаць упэўненым у сабе, дужым і добрым. Вядома, многае залежыць ад таго, як быў праведзены ўчарашні вечар, ноч; але галоўнае ўсё ж — уменне ўстаць раніцай з «правай нагі». Хутка, эфектыўна і дакладна пераключыць свой арганізм з начнога рэжыму работы на дзённы. Правільна запусціць чарговы цыкл сутачнага біярытму. Трэба зрабіць так, каб бадзёрасці хапіла на цэлы дзень. Першай справай зарадка? Мы да гэтага прывыклі. Аднак сучаснымі даследаваннямі даказана, што сілавую гімнастыку лепш адкласці да сярэдзіны ці другой палавіны дня. Па-першае, яна займае дастаткова шмат часу, па-другое, ваш арганізм яшчэ не гатоў да значнай фізічнай нагрузкі.

З майго пункту погляду, раніца мужчыны павінна выглядаць наступным чынам. Прачнуўшыся, павярніцеся на спіну, паклаўшы рукі ўздоўж цела далонямі на пасцель. Напружцеся, апёршыся рукамі, пяткамі і патыліцай, злёгку прагніцеся, прыўзняўшы таз. Адчуйце сваё цела. Расслабцеся, крыху паляжыце спакойна і ўставайце. Вызваліце мачавы пузыр і кішэчнік. Памыйцеся, завяршыўшы туалет халодным душам. Адчыніце вокны ці, калі на вуліцы халодна, фортку. А цяпер, павярнуўшыся тварам на ўсход, зрабіце комплекс «Добры дзень, Сонца!» Гэты комплекс — ранішняя размінка ёгаў. Яго звычайна выконваюць на досвітку, павярнуўшыся тварам да ўзыходзячага Сонца. Канешне, я не збіраюся патрабаваць ад нашага чытача так рана ўставаць, калі яго арганізм прывучаны да іншага рэжыму. Але ўсё ж практыкаванні комплексу трэба выконваць у пачатку дня, як толькі прачнуліся, павярнуўшыся тварам да Сонца, няхай яно нават паднялося ўжо над гарызонтам.

Ёсць поўны, вялікі комплекс «прафесіянальных» ёгаў, але вы можаце карыстацца і скарочаным варыянтам, калі баіцеся спазніцца на работу ці не лічыце сябе дастаткова падрыхтаваным фізічна.

### Поўны комплекс «Дзень добры, Сонца!»

Практыкаванні трэба рабіць басанож, і пажадана, каб адзення на вас было як магa меней. Комплекс пачынаеце ў прамой стойцы з рукамі, складзенымі на грудзях (1). Пяткі і наскі ног разам. Павольна і свабодна дыхаючы, забудзьцеся на ўсе клопаты вашага жыцця. Сканцэнтруйцеся на Сонцы, нават калі яго і не відаць за аблокамі. Імкніцеся ўнутрана адчуць яго цяпло, думкамі аб'яднайцеся з Сонцам, нагадайце сабе, што вы, як і ўсё жывое на Зямлі, — яго дзіця. Пачаўшы павольны ўдых, узніміце рукі ўгору, прагніцеся з выцягнутымі рукамі (2). Затрымайце дыханне на 2—3 сек., гэта другая фаза практыкавання. У гэты час старайцеся адчуць сваё цела дугой туга нацягнутага лука, пругкай і гатовай выкінуць стралу вашай энергіі ў будучы дзень. Трэцяя фаза: пачаўшы выдых, нахіляйцеся наперад, пакуль не дакранецеся рукамі да падлогі, пры гэтым ілбом трэба дастаць калені, не згінаючы іх (3). Зноў затрымайце дыханне на 2—3 секунды. Сканцэнтруйцеся, адчуйце сябе маленькім і пругкім шарыкам, добра абароненым, лёгка адбіваючым знешнія ўдары. Зрабіце ўдых. У чацвёртай фазе, не мяняючы становішча рук (вы помніце, што яны ў вас дакранаюцца да падлогі?), адстаўце правую нагу далёка назад. Левую — выстаўце наперад, сагнуўшы яе ў калене. Пры гэтым тулава павінна прыняць вертыкальнае становішча, галаву падыміце, глядзіце наперад (4). Затрымайце дыханне на вышыні ўдыху. Сканцэнтруйцеся на пругкасці ног, на вашым пазваночніку. Ён такі прамы: галава, шыя і спіна — усё выцягнута ў адну струну. Адчуйце яе энергію! Выконваючы пятую фазу поўнага комплексу, перанясіце левую нагу назад; няхай яна будзе побач з правай, у такім жа становішчы (абедзве прамыя нагі разам, пальцы і пяткі таксама). Выпрастайце цела, абапрыцеся на прамыя рукі (5). Пасля гэтага, робячы выдых, павольна сагніце рукі. Скончыць выдых трэба, лежачы на падлозе (шостая фаза), не расслабляючыся, так, каб да падлогі дакраналіся толькі пальцы ног, калені, грудзі, лоб (не ўвесь твар) і далоні рук (6). Выконваючы гэту фазу комплексу, нібы зліцеся з Зямлёй, адчуйце яе сілу, надзейнасць. Увесь астатні час імкніцеся фіксаваць сваю ўвагу на Сонцы, вялікай крыніцы энергіі, сілы і бадзёрасці, якое дорыць жыццё ўсім істотам на Зямлі, песціць нашу планету і скіроўвае свае жыватворныя промні і на вас. Гэта адчуванне павінна захоўвацца ўвесь час, пакуль вы выконваеце комплекс «Дзень добры, Сонца!». Пасля гэтага пачніце ўдых. Лежачы на жываце, узніміце галаву і грудзі (7), адначасова прагінаючыся і робячы пры гэтым ўдых. У наступнай фазе вам давядзецца прыняць позу, якая збоку можа здацца дзіўнай. Узніміце таз так, каб рукі і корпус складалі адзін бок трохвугольніка, а прамыя ў каленях ногі — другі (8). Затрымайце дыханне на вышыні ўдыху і адначасова пачніце дзевятую фазу комплексу: выстаўце сагнутую правую нагу наперад паміж рукамі, упёршыся каленам другой нагі ў падлогу. Прагніцеся, падыміце галаву (9). Толькі пасля гэтага пачніце выдых. Для пераходу да дзесятай фазы прыстаўце левую нагу да правай; працягваючы апірацца на прамыя рукі, што дакранаюцца да падлогі, разагніце калені, прыўзніміце таз так, каб, стоячы на прамых нагах і не адрываючы далоняў ад падлогі, дакрануцца лбом да каленяў выпрастаных ног (10). Скончыўшы выдых, затрымайце дыханне на 2—3 секунды. Пачніце разгінацца, пры гэтым рабіце ўдых. Выпрастаўшыся з паднятымі рукамі, прагніцеся (11). Затрымайце дыханне. Наступная фаза: складзіце рукі на грудзях (12) і зрабіце некалькі глыбокіх і павольных поўных дыхальных рухаў. Вы павінны адчуваць, як ваша цела напоўнілася свабодна цыркулюючай па ім энергіяй Сонца. Адчуванне павінна быць светлае, радаснае.



## РАДЫЁ

**12 лютага**

10.15 — для дзяцей. А. Дудараў. «Блакітны праменьчык». Інсцэніраваная казка. 10.35 — «Агеньчык». Радыёклуб. 11.20— «Па шляху да рынку». 11.40 — «З новых запісаў». Іграе скрыпач А. Рылатка. 12.00—«Апоўдні». Перадача на актуальныя тэмы. 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Парад зорак». Эстрадная праграма. 15.15 — «Маленькія шэдэўры вялікіх кампазітараў». Музычная праграма. 16.05— М. Лынькоў. «Андрэй Лятун». Апавяданне. 16.33 — канцэрт. 17.00— «У свеце аперэты». Канцэрт. 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00— «Дзень нашага жыцця». 20.25— У. Дзюба. «Нарачным. Рукевічу. Рылееў...». Радыёспектакль. 21.40 — вершы А. Пысіна. 22.00 — Л. Гаўрылкін. «У той далёкі год». Апавяданне. 22.30 — «У суладдзі з паэзіяй». Канцэрт класічнай музыкі. 23.10 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 23.55 — «Начны канал».

## НАДВОР'Е

**11 лютага**

Сёння ўдзень па рэспубліцы пройдуць ападкі. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 0—2, Гомелі, Мінску, Гродна — 1—3, Брэсце — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак характар надвор'я істотна не зменіцца.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ. СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Саюзная і рэспубліканская інфармацыя.**
**«Неаплачаныя вэксалі».** Працягваем размову.
**«Чытач — чытачу».** Пісьмы ў «СБ».
**«Здароўе — катэгорыя эканамічная».** Фотарэпартаж.
**«Кругагляд».** Людзі. Падзеі. Факты.
**«Кветкі на магілу святара».** Лёсы людскія.
**«Мяса ў... яму».** Востры сігнал.
**«Чалавек — дзіця космасу».** Гутарка з астролагам.
**«Яны не без вестак прапалі...».** Памяць.
**«Лякарства ад старасці».** Дарэмна забытае.
**«Дыверсія на Ігналінскай АЭС».** У нашых суседзяў.
**«Золата Любові Ягоравай».** Дзённік Алімпіяды.



## «СПОРТЛАТО»

Вынікі 6-га тыражу.
**«Шэсць з 45».**
5—15—20—24—27—33.
**«Пяць з 36»:**
1—10—12—26—32.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

**11 лютага**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Тандыр, арча, агонь...» Кінанарыс.
**9.00.** Музыка і спевы. 5-ы клас.
**9.30.** «Светлая асоба». Мастацкі фільм.
**10.50.** «Гаючая душа». Тэленарыс пра селяніна з Гродзеншчыны У. Купрыяновіча.
**11.25.** «Ад і да». Тэлетаргі.
**11.40.** «Каханнем за каханне». Мастацкі фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Прыродазнаўства. 3-ці клас.
**16.55.** Выступленне Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам А. Лысенкі і выхаванцаў музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі.
**17.45.** «Серабрысты званочак». Мультфільм.
**18.00.** Фільмы «Незнаёмы і дзівосны свет», «І расказала возера».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Віцебск).
**19.35.** Наш каментарый. «Як падзяліць непадзельнае?»
**19.40.** Сацыяльная абарона працоўных. У перапынку **(20.25)**— Калыханка.
**21.20.** Тэлебіржа.
**21.35.** «Кін-дза-дза!» Мастацкі фільм. У перапынку **(22.40)** — НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Лянота». Мультфільм.
**7.50.** Канцэрт Э. Вірсаладзе (фартэпіяна).
**8.45.** «Палата нумар шэсць». Тэлеспектакль.
**10.15.** Дак. фільм «Дэльта».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Рытмічная гімнастыка.
**11.50.** Свята танцора ў г. Уладзіміры.
**12.50.** «Матч-рэванш». Мультфільм.
**13.10.** С. Франк. Харал № 3 для аргана ля мінор.
**13.25.** Гандлёвы рад.
**13.45.** «Вам гэта трэба?»
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Урокі Вольгі Івановай.
**14.35.** «Станцыйны наглядчык». Мастацкі фільм.
**15.40.** «Лясныя казкі». Мультфільм.
**15.55.** Выступае Рашыда Ідрысава.
**16.10.** Разам з чэмпіёнамі.
**16.25.** Зімнія алімпійскія гульні. Санны спорт.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Неастралагічны прагноз.
**17.40.** Мультфільм.
**17.55.** «Справа».
**18.15.** Фільмы рэжысёра Г. Данеліі. «Афоня».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** «Тэлевізійнае знаёмства». Урмас От гутарыць з Прэзідэнтам Украіны Л. Краўчуком.
**21.30.** «Фермата». Музычна-інфармацыйная праграма.
**22.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная ЗША—зборная Германіі. У перапынку **(23.00)**— Навіны.
**0.20.** «Ваш выхад, артыст». Я. Ласько.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Французская мова. 1-ы год навучання.
**7.50.** Вольны час. «Птушкі побач з намі».
**8.05.** Французская мова. 2-гі год навучання.
**8.35.** Прастора плюс.
**9.05.** Сялянскае пытанне.
**9.25.** Дзённік Алімпіяды.
**10.00.** Дзіцячая гадзіна (з урокам французскай мовы).
**11.00.** Пятае кола.
**12.45.** «Бязмежжа на «Барыкаднай».
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Біятлон.
**16.30.** Т. Ін. Ка.
**16.45.** Зімнія алімпійскія гульні. Дваяборства. Слалам.
**18.40.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Сам сабе рэжысёр». Перадача 2-я.
**20.05.** Дзённік Алімпіяды.
**20.25.** Грамадская думка.
**20.40.** Люстры.
**21.10.** Аўташоу.
**21.40.** Дзелавы кур'ер.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Зімнія алімпійскія гульні. Фігурнае катанне.

**12 лютага**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Вольны табун». Кінанарыс.
**9.00.** Прыродазнаўства. 3-ці клас.
**9.20.** Ліра.
**11.30.** «Кін-дза-дза!». Мастацкі фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Для дзяцей. «Тое-сёе з паштовай сумкі».
**17.15.** Экран дзіцячага фільма. «Кукурыгу», «Дарога дамоў».
**18.00.** Дак. фільмы «Два словы ў пісьме», «Галасы».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.35.** Наш каментарый. «Прадбачанне і рэальнасць».
**19.40.** Аб партыях—без дыпламатыі. Шматпартыйнасць: знаходкі і страты.
**20.25.** Калыханка.
**21.05.** «Забіць дракона». Мастацкі фільм.
**23.05.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** Мультфільмы «Скарб», «Крот і жавальная гумка», «Кот у ботах».
**8.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная ЗША — зборная Германіі.
**9.30.** Разам з чэмпіёнамі.
**9.45.** Фільм—дзецям. «Як Хашым быў вялікім».
**10.50.** Народныя мелодыі.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Погляд з правінцыі». Зямля варонежская.
**12.10.** Паралельныя сусветы.
**12.55.** Як дабіцца поспеху.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Сёння і тады.
**14.50.** «У бары брусніцы». Мастацкі фільм. 1-я серыя «Незамужняя жонка».
**16.10.** «Гісторыя без слоў». Мультфільм.
**16.15.** Зімнія Алімпійскія гульні. Санны спорт.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Рэформа: тыдзень за тыднем.
**18.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Фігурнае катанне.
**18.55.** Мастацкі фільм «Дайце мне спяваць».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Зімнія алімпійскія гульні. Канькабежны спорт.
**21.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная СНД — зборная Чэха-Славакіі. У перапынку — Навіны.
**23.45.** Музычны прагноз.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
**7.50.** Вольны час. «Увага, здымаю!»
**8.05.** Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
**8.35.** «Карэту мне, карэту!». Творчы партрэт В. Саломіна.
**9.35.** Дзённік Алімпіяды.
**10.15.** Расійскі фермер: погляд у будучыню.
**11.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Біятлон.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Восень жыцця.
**15.20.** Зімнія алімпійскія гульні. Дваяборства.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Горныя лыжы.
**18.00.** Грані.
**18.40.** Азы кар'еры.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**20.00.** Дзённік Алімпіяды.
**20.30.** Тварам да Расіі.
**20.50.** Мультфільм.
**21.00.** «Так, прэзідэнт. Не, прэзідэнт».
**22.20.** «Пецярбургскі міф». Перадача 1-я.
**23.00.** «Біг-бэнд Джэфарда Холмса».

Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Яраслаў Чапля, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 28. Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12